**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 6 (774) 5 лютага 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Настаўнік з Мёраў Вітальд Ермалёнак стварыў чатыры школьныя музеі Ён сабраў ужо больш за 25 тысяч экспанатаў.** Фота Змітра Лупача. *Працяг тэмы будзе.*

## Не хочаш плаціць унёскі добраахвотна, заплаціш прымусова!

***Да 01.03.2015 года ўсе прадпрымальнікі мусяць выплаціць унёсак у суме 7 325 250 рублёў.***

Глыбоцкі раённы аддзел Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва нагадвае, што ў адпаведнасці з унесенымі зменамі ва Указ Прэзідэнта РБ №40 ад 16.01.2009 абавязковыя страхавыя ўнёскі за 2014 год індывідуальныя прадпрымальнікі за сябе павінны выплаціць да 01.03.2015 года. Парадак разліку сумы да выплаты аднолькавы для ўсіх прадпрымальнікаў, не залежна ад віду падатка, які выплачваецца: 35% ад сумы мінімальнай заработнай платы за 2014 год, памер якой склаў 20 929 239 рублёў. Адпаведна, сума ўнёскаў да выплаты за 2014 год складае 7 325 250 рублёў.

Прадпрымальнікі, якія маюць ільготу (асноўнае месца працы па працоўнай дамове, атрымліваюць пенсію, студэнты вочнай формы навучання) павінны падаць у аддзел Фонду дакументы для пацверджання льготы ў тэрмін да 01.03.2015года па адрасе: г. Глыбокае вул. Леніна в.42 каб.77,78,80.

У выпадку няўплаты ўнёскаў ва ўсталяваны заканадаўствам тэрмін і не прадстаўленні дакументаў, якія пацвярджаюць наяўнасць ільготы, дакументы на спагнанне запазычанасці будуць перададзеныя ў аддзел прымусовага выканання па Глыбоцкім раёне.

Акрамя таго, на няўплачаную ў тэрмін суму ўнёскаў з 01.03.2015 года будзе налічвацца пяня, а само парушэнне тэрмінаў выплаты ўнёскаў цягне за сабой накладанне штрафу па артыкуле 11.54 КоАП РБ у памеры 20% ад няўплачанай у тэрмін сумы.

Па ўзніклых пытаннях звяртайцеся па тэлефонах: 2-29-04, 2-23-80, 2-23-32, 2-10-44, 2-10-72.

***Карнатка Е.Э.,***
*галоўны інспектар аддзела.*

## За 2014 год колькасць насельніцтва Беларусі вырасла амаль на 13 тысяч

**За** 2014 **год колькасць насельніцтва Беларусі вырасла на** 12,8 **тыс. чалавек і склала на** 1 **студзеня** 2015 **года** 9 **млн.** 481 **тысячу, паведамілі ў Нацыянальным статыстычным камітэце.**

Натуральныя страты насельніцтва ў 2014 годзе ў параўнанні з 2013 годам зменшыліся больш як у два разы.

У 2014 годзе міграцыйны прырост насельніцтва павялічыўся ў параўнанні з 2013 годам на 4.079 чалавек, ці на 35%.

За 2014 год у Беларусі нарадзілася 118.697 дзяцей, памёр 121.601 чалавек. У 2014 годзе ў цэлым па краіне колькасць памерлых перавысіла колькасць народжаных на 2,4% (у 2013 годзе перавышэнне склала 6,2%).

Колькасць зарэгістраваных шлюбаў за мінулы год знізілася на 3,7% (да 83.942), скасавання шлюбаў – на 3,4% (25.547). На 1.000 шлюбаў прыпадала 415 выпадкаў скасавання, у 2013 годзе – 414.

***Марына Носава,*** *БелаПАН.*

## Талачынскі раён

# А сховішчаў не хапае

■ Станіслаў Раманчук.

**Адну з першых сваіх рабочых паездак на новай пасадзе прэм'ер-міністр Беларусі А. Кабякоў ажыццявіў у выхадны дзень у Талачынскі раён.**

Менавіта там размешчаны адзін з самых сучасных айчынных кансервавых заводаў, у якога ёсць амаль 8 тысяч гектараў зямель для ўласнай сыравіннай базы: садоў, ягаднікаў і пасеваў бульбы. Глава ўрада пераканаўся, што вытворчасць вітамінннай прадукцыі тут расце хутка. На прадпрыемстве ідуць цяпер работы па стварэнні магутнага цэха па выпуску натуральных сокаў. Спрадвечны беларускі прадукт бульба таксама знайшоў свайго спажыўца ўнутры краіны і ў Расіі. На расійскіх прасторах карыстаюцца попытам і нашы яблыкі. Аднак узнікла новая праблема, бо больш 1,1 тысячы тон яблык і груш з-за іх вельмі высокага ўраджаю летась проста не было дзе захоўваць, бо сучасныя электронныя сховішчы садавіны разлічаны на захоўванне толькі каля 2,5 тысяч тон прадукцыі. Праўда, прэм'ер-міністр адразу папярэдзіў упраўленцаў завода, што разлічваць, як раней, на вялізныя дзяржаўныя крэдыты не выпадае. Для ўзвядзення новых сховішчаў дырэкцыі трэба шукаць партнёраў і інвестараў, актыўней заваёўваць новыя рынкі збыту тых жа натуральных сокаў. У другой палове дня глава ўрада пабываў на яшчэ адным дынамічным прадпрыемстве краю, азнаёміўся з дзейнасцю Коханаўскага трубнага завода "Белтрубпласт" і паабяцаў калектыву падтрымку ў асваенні перспектыўных інавацыйных праектаў па выпуску найноўшых поліэтыленавых труб розных дыяметраў. Такая прадукцыя ўжо запатрабавана на будаўніцтве Беларускай АЭС.

## Пастаўскі раён

# Прыйсці на дапамогу

■ Кастусь Александровіч

**Ва ўсіх рэгіёнах краіны востра стаіць праблема масавай алкагалізацыі насельніцтва, а шмат дзе і выяўляецца цяга моладзі да наркотыкаў.**

Каб актыўней аказваць залежным ад згубных звычак людзям патрэбную дапамогу, у Паставах у пачатку студзеня адкрылі пры райбальніцы адно з першых у краіне наркалагічных аддзяленняў. Медустанова пры дапамозе кіраўніцтва раёна задумала і ажыццявіла ўнікальны пілотны праект. Спачатку бальніцы перадалі для эксплуатацыі пуставаўшы будынак медвыцвярэзніка, у якім быў зроблены капітальны рамонт. Яго праводзілі спецыялісты будфірмы "Рассвет Пастаўскі", частку работ выканалі сваімі сіламі пры дапамозе сродкаў ад спонсараў. Патрэбнай новай мэбляй аддзяленне забяспечыў Варапаеўскі дрэваапрацоўчы камбінат. Удалося гэта падраздзяленне ЦРБ забяспечыць патрэбнай апаратурай для кадзіравання, укамплектаваць вопытнымі кадрамі, а загадчыца ўрач-псіхолаг-нарколаг Жанна Папова прайшла дадатковую падрыхтоўку на спецыяльных курсах у сталіцы. Патрэбнасць стварэння такога аддзялення ў рэгіёне была вялікая, бо дагэтуль да сотні і болей чалавек штогод спрабавалі лячыць тут ананімна ад залежнасці ад алкаголю і цягі да наркотыкаў. У новым аддзяленні ёсць і дзённы стацыянар, і асобны рэабілітацыйна-сацыяльны блок. На платнай аснове будзе праводзіцца прымусовае лячэнне ад алкагалізму па прыгавору суда, больш шасць жа пацыентаў будуць лячыць добраахвотна.

## Полацкі раён

# Не так "робяць" грошы

■ Чэслаў Якубовіч.

**Апошнім часам усё часцей фіксуюцца розныя правапарушэнні ў сферы банкаўскіх пластыкавых картак.**

Вось і ў горадзе Навапалацку адзін за другім завяршыліся судовыя працэсы па даволі гучных крымінальных справах. Па адной з іх праходзіў малады 23-гадовы гараджанін, які лічыў сябе вельмі разумным і рашыўся красці чужыя грошы з банкаматаў пры дапамозе спецыяльнага прыстасавання "Скіммер". Гэту прыладу злачынца ўстанаўліваў у банкаматах не толькі па Віцебшчыне, але і ў беларускай сталіцы, Гродне і Гомелі. Далей па адпрацаванай схеме прасунуты тэхнічна злодзей патаемна счытваў патрэбную інфармацыю з чужых банкаўскіх рахункаў і вырабляў падробныя карткі для сябе. З іх дапамогай ён і здымаў у розных банкаматах, праўда, невялікія сумы грошай і без асаблівага напружання завалодаў сумай звыш 80 млн. рублёў. Аднак і ў банках ёсць свае спецыялісты, гэту афёру выявілі і па прыгавору суда злодзей-электроншчык атрымаў 7 гадоў пазбаўлення волі. Яшчэ на большы тэрмін – 9 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці днямі асуджаны ягоны зямляк, 32-гадовы навапалачанін. Гэты гараджанін скарыстаўся збоем у электронай сістэме разлікаў і прысвоіў 1,7 млрд. рублёў. Ён за 9 месяцаў раскошнага жыцця адрамантаваў кватэры сабе і бацькам, аднак і "прасадзіў" у гульнявых аўтаматах яшчэ каля 400 мільёнаў. Пацярпеламу банку злодзей вярнуў толькі чацвёртую частку ўкрадзеных грошай, а цяпер на зоне толькі застанецца ўспамінаць пра жыццё мільярдэрам.

## Аб самым надзённым

# СПРАВІЦЦА З РОСТАМ ЦЭН У БЕЛАРУСІ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫМ ЧЫНАМ ЗНОЎ НЕ ЎДАСЦА



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Што датычыць паходу ў магазін, то тавары крытычнага імпарту, якія ў нас не вырабляюць, тыя ж фрукты, рыба марская, алей, крупы, чай, кофе і іншыя прадукты па новых уведзеных правілах фарміравання цэн падаражэлі, асобныя віды нават на 30 %.**

З кожным днём становіцца ўсё больш відавочна, што не толькі ў нас, але і ў бліжэйшых суседзяў украінцаў і расіян падае жыццёвы ўзровень. Вось ва Украіне пагаршэнне сітуацыі ў эканоміцы выклікана найперш агрэсіўнымі дзеяннямі Крамля і развязанай вайной на Данбасе. Расія ж зрабіла выклік цывілізаванаму чалавецтву, уступіла ў адчайнае супрацьстаянне з Захадам, аднак цяпер эйфарыя ад крымскай авантуры ў многіх рускіх прайшла. Ужо не радасна ўсходнім суседзям, што паказалі "кузькіну маму" ненавісным амерыканцам, калі цэны шалёна растуць, даходы падаюць, а наперадзе чакае яшчэ значны рост беспрацоўя, выкліканы зацяжным цяжкім крызісам і абвалам цэн на нафту, які абрынуўся на прасторы ад Смаленска да Чукоткі.

Наша ж дзяржава для народа ні з кім, на шчасце, не ваюе і не канфліктуе, аднак таксама цяжкасцей толькі прыбаўляецца. Мінулы год па дрэннай завядзёнцы закончылі з ростам цэн на 16,2 %, а прадукты харчавання летась падаражэлі яшчэ болей, амаль на 20 %. Кіраўніцтва краіны ўстрывожана бягучай абстаноўкай і невыпадкова днямі А. Лукашэнка заслухаў з дакладамі главу ўрада і кіраўніка Камітэта дзяржаўнага кантролю. Пытанні ж росту цэн для насельніцтва самыя балючыя, з пачатку года на месцах было шмат званкоў і скаргаў, што многае падаражэла перад і пасля навагодніх свят, нягледзячы на аб'яўлены мараторый з 19 снежня. Адным з першых падаражэў у нас бензін, хоць мараторый на рост цэн дзейнічаў.

Нават у беларускай сталіцы, дзе найхутчэй нармалізавалася сітуацыя ў абменніках і працэй там купіць валюту, чым у правінцыі, мінчане сутыкнуліся з перабоямі з продажам імпартных прадуктаў, у першую чаргу садавіны і агародніны, рыбы. Аднак чаму тут здзіўляцца, калі за некалькі тыдняў беларускі рубль абваліўся на 40 %. Беларусы сталі сведкамі закрыцця некалькіх дзесяткаў магазінаў нават самых буйных гандлёвых сетак, пад гэту меру трапілі пазней і 20 крам, размешчаных на запраўках "Лукойла". Аднак кожнаму эканамісту зразумела, як бы ні імкнуліся ў нас дырэктыўнымі мерамі паўплываць на сітуацыю, спыніць аб'ектыўны рост цэн зноў не атрымаецца.

Справа ў тым, што ў Беларусі эканоміка адкрытага тыпу, за многія паслугі, энергарэсурсы і тавары крытычнага імпарту дзяржаве і фірмам-імпарцёрам прыходзіцца расплочвацца валютай. Толькі самы наіўны беларус можа спадзявацца, што ў нас заставяць ганлёвыя сеткі " не жировать на проблемах людей". Цудаў у эканоміцы не бывае і ніколі ўжо мы не вернемся да ўзроўню цэн сярэдзіны снежня 2014 года. З улікам прайшоўшай дэвальвацыі праз некалькі месяцаў усё стане на свае месцы і людзі прывыкнуць да новых цэннікаў на імпартныя тавары, тэхніку і медыкаменты (з-за граніцы ў Беларусь прыходзіцца завозіць 4,5 тысячы найменняў лекаў, а доля айчынных прэпаратаў 1,1 тыс.). Як ні круці, а большасці з нас прыйдзецца нават напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў тужэй зацінуць паясы, жыць больш сціпла, чым раней.

Невыпадкова беларускі лідар патрабуе цяпер ад парламенцкага корпуса і міністраў больш эфектыўна працаваць з людзьмі ў рэгіёнах, паколькі ў лепшым выпадку айчынную эканоміку чакае стагнацыя. У мінулым годзе аб'ёмы вытворчасці нашай эканомікі засталіся прыкладна на ўзроўні 2013 года, а вось фінансавыя паказчыкі рэальнага сектара значна пагоршыліся найперш з-за рэзкага зніжэння попыту на беларускія тавары ў Расіі. Работа ж на склад (75,8 % па выніках года) вядзе толькі да страт канкрэтных вытворцаў і зніжэння іх плацежаздольнасці.

У нас жа яшчэ летась у другой палове года рост заробкаў працоўных фактычна замарозілі. Мяркуючы па ўсім, так будзе і сёлета, бо кіраўнік дзяржавы нацэліў Саўмін на захаванне дасягнутай па выніках 2014 года тэндэнцыі перавагі ў росце прадукцыйнасці працы над зарплатай. Тым часам міжгаліновая рабочая група, якая адсочвала сітуацыю на спажывецкім і валютным рынках, адзначыла, што ў Беларусі ўтварылася адносная раўнавага ў гэтых важных для насельніцтва сферах. Вось толькі адно засмучае, што наяўны долар стаў даражэйшым і мы прыкметна збяднелі, хоць з аднымі замежнымі банкнотамі на радзіме не купіш і буханкі хлеба.

Што датычыць паходу ў магазін, то тавары крытычнага імпарту, якія ў нас не вырабляюць, тыя ж фрукты, рыба марская, алей, крупы, чай, кофе і іншыя прадукты па новых уведзеных правілах фарміравання цэн падаражэлі, асобныя віды нават на 30 %. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова заглянуць у бліжэйшую краму. На гэтым вось фоне ў краіне неўзабаве пачнецца выбарчая кампанія, калі ўслед за расійскай і нашу эканоміку чакаюць няпростыя гады наперадзе. І тут ужо ніякая чарговая дырэктыва не дапаможа, калі растуць непрададзеныя складскія запасы і цэны, нягледзячы на грозныя каманды з усіх бакоў…

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 05.02.15 | | | | Пятніца 06.02.15 | | | | Субота 07.02.15 | | | | Нядзеля 08.02.15 | | | | Пан.09.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -3 | -2 | -1 | -4 | -5 | -5 | -3 | -4 | -2 | -1 | 0 | -2 | -2 | -2 | -2 | -6 | -8 | -9 | -5 |
| Ціск | 748 | 750 | 752 | 753 | 754 | 756 | 754 | 750 | 748 | 747 | 743 | 735 | 728 | 730 | 733 | 737 | 740 | 744 | 744 |
| Вільготнасць | 91 | 90 | 82 | 88 | 85 | 79 | 74 | 86 | 90 | 92 | 91 | 89 | 92 | 83 | 82 | 82 | 81 | 84 | 70 |
| Вецер м/сек | 1 С | 2 С-В | 2 С-В | 4 С | 4 С | 2 С | 4 З | 5 З | 5 С-З | 3 З | 4 З | 6 Ю-З | 6 Ю-З | 6 С-З | 5 С-З | 5 С-З | 6 С-З | 4 С-З | 3 З |

## Дзень за днём

**На I тур прэзідэнцкіх выбараў восенню з дзяржбюджэту пойдзе 10 млн. USD. Беларускія банкі аднавілі выдачу спажывецкіх крэдытаў. Падчас татальных праверак у Беларусі закрылі і аштрафавалі больш тысячы магазінаў за дробныя парушэнні. Нават у Мінску пачаліся перабоі з продажам шэрагу імпартных прадуктаў і прамтавараў. А. Лукашэнка вырашыў падключыць да аховы граніц з ЕС насельніцтва і запатрабаваў не дапусціць росту цэн. Канстытуцыйны Суд выказаўся за публікацыю законаў на дзвюх дзяржаўных мовах.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Прэзідэнт Барак Абама заявіў, што сёння моцная Амерыка разам з саюзнікамі так ізалявалі агрэсіўную Расію, што ад яе эканомікі засталіся рожкі ды ножкі.

**Расія.** Былы міністр фінансаў РФ А. Кудрын адзначыў, што спатрэбіцца не менш 10 гадоў, каб вярнуць ранейшы ўзровень расійскай эканомікі і то пасля адмены санкцый.

**Украіна.** Пуцін пляваў на мінскія дамоўленасці, бо ў Данбасе кантынгент узброеных сіл РФ без апазнавальных знакаў значна павялічыўся танкамі, БМП, БТР, машынамі "Тыгр".

**Германія.** Канцлер А. Меркель зноў рэзка асудзіла агрэсіўныя дзеянні Расіі супраць Украіны, бо Пуцін падрывае базавыя прынцыпы і каштоўнасці еўрапейскага свету.

**Турцыя.** Прэм'ер-міністр Ахмет Давутоглу прызнаў, што практычна нерэальна закрыць поўнасцю граніцу, адкрытую з боку Сірыі, каб спыніць паток ісламістаў на вайну там.

**Аргентына.** Тысячы людзей выйшлі на вуліцы з патрабаваннямі аб'ектыўна расследваць забойства пракурора, які абвінавачіў прэзідэнта К. Кіршнер у сумніўных сувязях з Іранам.

**Літва.** Вядомы рускі журналіст і выкладчык А. Троіцкі на лекцыі ў ЕГУ заявіў, што Беларусь з Украінай стануць нармальнымі еўрапейскімі дзяржавамі, а Расія – наўрад ці.

**Украіна.** Расійскі палітолаг С. Бялкоўскі папярэдзіў, што ў Данбасе сітуацыя тупіковая, бо Пуцін не спыніць там вайну і будзе чакаць поўнага эканамічнага краху Украіны сёлета.

**Францыя.** На поўдні краіны ў горадзе Без'е паліцыя затрымала 5 грамадзян Расіі, выхадцаў з Чачні па падазрэнні ў падрыхтоўцы тэрактаў, знайшлі ў іх шмат выбухоўкі.

**Арменія.** Пратэсты насельніцтва і гарачыя сутычкі з паліцыяй выклікала забойства рускім салдатам са 102-й базы войск РФ армянскай сям'і з 7 чалавек у горадзе Гюмры.

**Польшча.** Галоўная ваенная пракуратура пацвердзіла, што дыспетчары на аэрадроме пад Смаленскам дзейнічалі правільна, польскія пілоты Ту-154 занадта рызыкавалі там.

**Расія.** Толькі на падтрымку банкаў і буйных кампаній Крэмль патраціў 9,7 ммільярда долараў, па краіне пачаліся масавыя праверкі магазінаў пасля росту цэн на прадукты да 150 %.

**Палестына.** Глава расійскага Федэральнага медыка-біялагічнага агенства У. Уйба заявіў, што лідар аўтаноміі Ясер Арафат у 2004 годзе памёр сваёй смерцю, ніхто яго не травіў.

**Казахстан**. На поўначы краіны медыкі зафіксавалі загадкавую хваробу, калі людзі раптам пачынаюць доўга спаць, адчуваць упадак сіл, кружэнне галавы, пачынаюцца розныя галюцынацыі.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск з борта самалёта ў паветранай прасторы Беларусі даслаў прывітанне беларускаму народу з пажаданнямі міру і дабрабыту.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** У цэлым сітуацыя ў эканоміцы няпростая, як пацвердзіў прэм'ер-міністр Беларусі А. Кабякоў, па выніках года складскія запасы склалі 75,8 % ад аб'ёмаў вытворчасці.

**Ліда.** Пад раніцу на мясцовай чыгуначнай станцыі сышла з рэльсаў платформа з цыстэрнамі метанола для Эстоніі вытворчасці "Гродна Азот", пацярпелых на шчасце не было.

**Мінск.** У канцы 2014 года ў верасні-снежні Расельгаснагляд не пусціў у Расію 148 партый беларускіх тавараў, рускія зрабілі на граніцы вельмі жорсткі кантроль грузаў.

**Гродна.** На мясцовым мясакамбінаце абвергі прэтэнзіі Расіі аб нібыта наяўнасці афрыканскай чумы ў яго сасісках, бо з 10 снежня прадпрыемства не адгружала сваю прадукцыю ў РФ.

**Мінск.** Упершыню прэзідэнцкія выбары сёлета, як адзначыў палітолаг В. Карбалевіч, адбудуцца ў эканамічны крызіс, але кампанія пройдзе звыкла з прадказальным вынікам.

**Зельва.** Пракуратура Гродзенскай вобласці распачала крымінальную справу супраць старшыні мясцовага раённага Савета дэпутатаў за карупцыю, злоўжыванне ўладай.

**Мінск.** Новы міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў заявіў, што гісторыю Беларусі і геаграфію трэба вывучаць у школах па-беларуску, кожны беларус павінен ведаць родную мову.

**Брэст.** У гандлёвым цэнтры "Домус" Літва адкрыла свой візавы цэнтр, такія цэнтры выдачы шэнгенскіх віз у Літву, Грэцыю запрацавалі яшчэ таксама ў Мінску, Гродне і Гомелі.

**Мінск.** Беларускі сок "Бярозавік" вытворчасці завода безалкагольных напояў стаў хітом сезона прадаж па 42 долары ў ЗША, рэзка вырас попыт на экалагічна чысты сок у Аўстрыі.

**Гомель.** Шокам для 23-гадовага беспрацоўнага гараджаніна і яго бацькоў стаў прыгавор суда – 10,5 гадоў пазбаўлення волі за арганізацыю гандлю спайсамі, каб крыху падзарабіць.

**Шклоў.** У мясцовай калоніі №17 пасля пераводу з Магілёўскай турмы №4 58-гадоваму экс-кандыдату ў прэзідэнты М. Статкевічу не змянілі рэжым адбывання пакарання.

**Гродна.** Ад пакінутай без нагляду запаленай свечкі загарэлася труна з памерлым чалавекам у кватэры на 6-м паверсе, абгарэлі пакой і нябожчык, эвакуіравалі жыхароў.

**Светлагорск.** Позна вечарам галодны воўк з'явіўся ў вёсцы Мядзведаў, напаў на сабаку, потым пакусаў траіх яе жыхароў, якіх даставілі на лячэнне ў раённую бальніцу.

**Ваўкавыск.** Пад прэвентыўным наглядам былы палітзняволены, воін-афганец Мікалай Аўтуховіч заняўся справай адраджэння сваёй старой фірмы таксі, якую ў яго адабралі.

**Мінск.** На Усходніх могілках сталіцы пасля адпявання ў Чырвоным касцёле ў магіле маці пахавалі прах вядомага гісторыка, доктара навук, прафесара Анатоля Грыцкевіча.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Былы гендырэктар ААТ "Віцебскабллён" можа пайсці пад суд за службовую халатнасць і прычыненне матэрыяльнага ўрону таварыству ў суме 78 млн. рублёў.

**Полацк.** Студэнцкі будатрад "Дзвіна" імя Героя Савецкага Саюза В. Еранько, які працаваў летась летам на ўзвядзенні ў Астраўцы Беларускай АЭС, прызналі лепшым у Беларусі.

**Паставы.** Пасля рэканструкцыі на базе былога медвыцвярэзніка райбальніца адкрыла першае ў Беларусі наркалагічнае аддзяленне на 15 ложкаў для лячэння і наркаманаў.

**Глыбокае.** Межраённы аддзел УДФР Камітэта дзяржкантролю распачаў 2 крымінальныя справы супраць дырэктара мясцовага прыватнага прадпрыемства за падман партнёраў.

**Дубровна.** Праверка райпракуратуры выявіла пратэрмінаваныя прадукты ў магазінах райпо, Аршанскага МКК, фірмы "ТоргШев", аштравалі 6 асоб, па вобласці – 70 чалавек.

**Віцебск.** З-за кароткага замыкання электразеткі ноччу загарэўся 9-павярховы інтэрнат прадпрыемства "Візас", пажарныя выратавалі 5 чалавек і эвакуіравалі 33 жыхары.

**Полацк.** Камітэт Дзяржкантролю выявіў, што на мясцовым камбінаце хлебапрадуктаў 2,5 гады прастойвала пад адкрытым небам новае абсталяванне на суму звыш 5 млрд. рублёў.

**Шуміліна.** Супраць траіх бухгалтараў мясцовай ПМК-70 распачалі крымінальныя справы за сістэматычныя крадзяжы грошай бударганізацыі ў суме звыш 580 млн. рублёў.

**Варапаева.** У Доме культуры гарпасёлка работнікі і ветэраны дыстанцыі пуці адзначылі 75-гадовы юбілей калектыву, які абслугоўвае 400 км чыгункі ў 7-мі раёнах вобласці.

**Віцебск.** Па падазрэнні ў вырабе спосабам глыбокага друку падробленых купюр 50 тысяч долараў міліцыя затрымала 36-гадовага мужчыну, раней судзімага за гандаль людзьмі.

**Браслаў.** У браслаўчанак стала папулярнай секцыя аквааэробікі, якая адкрылася на базе адпачынку "Дрывяты" Нацпарка "Браслаўскія азёры" ў басейне з цёплай вадой.

**Полацк.** Гарбальніца пачала прадаваць насельніцтву падарункавыя сертыфікаты ад 200 да 500 тысяч рублёў на лячэнне зубоў, лячэбны масаж, курсы розных працэдур.

**Докшыцы.** На працягу двух дзён у райцэнтры прайшоў VII раённы фестываль "Юныя таленты" ў некалькіх узроставых групах, прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі.

**Шаркаўшчына.** Райаддзел міліцыі правёў Дзень адкрытых дзвярэй для старшакласнікаў Більдзюжскай СШ, вучням паказалі тэхніку і спецсродкі, расказалі пра справы РАУС.

**Глыбокае.** Метадыст Дома рамёстваў Віктар Дудкевіч вырабіў з дрэва грэбень-гулівер вышынёй 1,5 метра і падараваў яго цырульні, кліентам якой ён пастаянна з'яўляецца.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# З 3 лютага ў Беларусі будуць дзейнічаць новыя правілы фарміравання цэн



■ **Марына Носава, БелаПАН**

**З 3 лютага ў Беларусі будуць дзейнічаць новыя правілы фарміравання цэн. Гэта вынікае з новага сумеснага ліста Міністэрства эканомікі і Міністэрства гандлю ад 30 студзеня, апублікаванага на сайце Мінгандлю.**

Нагадаем, 19 снежня 2014 г Савет міністраў прыняў пастанову № 1207, якой усталяваў бестэрміновы мараторый на рост коштаў. У той жа дзень у краіне узнікла ажыятажнае попыт у краінерэзкападаражэлавалюта. З-за гэтага імпартныя пастаўкі ў Беларусь сталі стратнымі, што прывяло да дэфіцыту некаторых тавараў. 15 студзеня Мінгандлю і Мінэканомікі апублікавалі растлумачальны ліст да пастановы № 1207, якім фактычна дазволілі вытворцам, пастаўшчыкам і рознічнаму гандлю павышаць адпускныя цэны на імпартныя тавары альбо іх імпартныя складнікі.

Новы ліст двух ведамстваў удакладняе катэгорыі індывідуальных прадпрымальнікаў(ІП) і юрыдычных асоб, на якія распаўсюджваюцца правілы. «Рэкамендаваныя правілы фарміравання (вызначэння) цэн распаўсюджваюцца на юрыдычныяасобыііндывідуальных прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць прадпрымальніцкую дзейнасць па вытворчасці і (або) продажы (пастаўцы) тавараў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, у тым ліку рэзідэнтаў СЭЗ, юрыдычныя асобы і індывідуальных прадпрымальнікаў, уключаных у Дзяржаўны рэестр гаспадарчых суб'ектаў, якія займаюць дамінуючае становішча на таварных рынках «, - гаворыцца ў лісце.

«Пры гэтым рэкамендуемыя правілы фарміравання (вызначэння) цэн не распаўсюджваюцца на фарміраванне тарыфаў на паслугі юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў, уключаных у Дзяржаўны рэестр гаспадарчых суб'ектаў, якія займаюць дамінуючае становішча на таварных рынках і якія заключылі дамовы з антыманапольным органам», - адзначаецца ў дакуменце.

У яго таксама дададзены пункт па фарміраванні цэн на лекі і медыцынскія паслугі: «Фарміраванне цэн на лекавыя сродкі, вырабы медыцынскага прызначэння, медыцынскую тэхніку ў сферы звароту (аптовым і рознічным звёнах) ажыццяўляецца ў адпаведнасці з нормамі ўказа прэзідэнта ад 11 жніўня 2005 г. № 366 «Аб фарміраванні цэн на лекавыя сродкі, вырабы медыцынскага прызначэння і медыцынскую тэхніку».

Для вытворцаў гэтая норма пашырана: «Дапускаецца павелічэнне цаны на велічыню змену кошту энерганосьбітаў, паліва, у тым ліку нафтапрадуктаў». Пры гэтым планавы ўзровень рэнтабельнасці не можа перавышаць фактычна склаўшыйся ўзровень па арганізацыі за студзень-верасень 2014 г па гэтым відзе дзейнасці.

Пры фарміраванні цэн на імпартныя тавары ліквідаваны пункт, згодна з якім кошт панянашаецца на 5%. Пры гэтым прывязка да курсу долара засталася, а таксама абмежаванне рэнтабельнасці ў 3%.

«Пры выкананні юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі прыведзеных рэкамендуемых правілаў фарміравання (вызначэння) цэн да дадзеных суб'ектаў не будуць прымяняцца меры адказнасці, прадугледжаныя пастановай Савета міністраў ад 19 снежня 2014 г № 1207», - гаворыцца ў рэкамендацыях.

# Крулеўшчына. Паходжанне назвы



**Кастусь Шыталь**
*краязнаўца*

**Пытанне аб пачатку гісторыі Крулеўшчыны цікавіла мяне яшчэ ў дзяцінстве. Бо маё дзяцінства прайшло ў Крулеўшчыне, суправаджанае грукатам цягніковых колаў. Калі я вучыўся ў школе, існавала толькі адна публікацыя па гісторыі мястэчка – артыкул "Край Крулеўшчынскі" У. Крачкоўскага і А. Чарнаруцкага, надрукаваны ў газеце "Ленінская трыбуна" ў 1989 годзе.**

У згаданым артыкуле было шмат цікавых фактаў з гісторыі мікрарэгіёна ў XX стагоддзі, але пачатковая гісторыя Крулеўшчыны была асветлена недастаткова і з памылкамі.Не выпадае вінаваціць у памылках аўтараў – яны карысталіся абмежаваным колам крыніц. У. Крачкоўскі і А. Чарнаруцкі сцвярджалі, што назва *"Крулеўшчына" была прыдуманая ў 1921 годзе польскай адміністрацыяй. Паводле аўтараў, гэтая назва мела ўганараваць памяць польскага караля і вялікага князя літоўскага Стафана Баторыя. (Дзіўная логіка: калі б было так, то чаму станцыю не назвалі, напрыклад, "Баторыя"?)*

У артыкуле было напісана, што першапачатковая назва чыгуначнай станцыі гучала як "Сяславіна" – у гонар расійскага генерала Аляксандра Сяславіна, удзельніка французска-расійскай вайны 1812 года. Выкладзеная Крачкоўскім і Чарнаруцкім версія стала агульнапрынятай, яе пераказвалі настаўнікі Крулеўшчынскай школы, аўтары кнігі "Памяць. Докшыцкі раён", журналісты.

Аказалася, што ўсё не так. Аўтару гэтых радкоў сталі трапляцца шматлікія гістарычныя крыніцы – спісы паселішчаў, тапаграфічныя карты, расклады цягнікоў, дзе назва "Крулеўшчына" згадваецца задоўга да 1921 года.

## "Хруляўшчызна, засценкаў восем"

Найстарэйшай такой крыніцай з'яўляецца апісанне каталіцкіх парафій Полацкага дэканата, створанае на загад віленскага біскупа Ігнацыя Масальскага ў 1784 годзе. Дакумент уяўляе сабой унікальны геаграфічны даведнік, дзе пералічаныя і лакалізаваныя ўсе паселішчы, азёры, лясныя і балотныя масівы, дарогі.

У пераліку паселішчаў Докшыцкай парафіі ёсць такі радок: *Chrulewszczyzna, zaścianków 8 w jednym miejscu, Xcia Radziwilly, na samą połnoc mile 2 wielkie*. *Перакладаецца ён так:"Хруляўшчызна, восем засценкаў у адным месцы, [уласнасць] князя Радзівіла, дакладна на поўнач дзве вялікія мілі"*. Адлегласць адлічаная ад мястэчка Докшыцы, а "вялікая міля" – гэта літоўская міля, 7,7985 км. Значыць, Хруляўшчызна знаходзілася прыкладна за 15,5 км на поўнач ад Докшыц.

Паўстае пытанне: чаму назва запісаная як "Хруляўшчызна"? На першы погляд можа здацца, што гэта граматычная памылка – у старых дакументах іх хапае. Але існуе дакумент, які прымушае засумнявацца – справаздача аб візітацыі парафіі Докшыцы 1796 года. Там "Хруляўшчызна" не згадваецца, затое ў радзівілаўскім маёнтку Порплішча пазначаны засценак "Chrule" ("Хруле"), які – вельмі верагодна – ёсць тым самым паселішчам, што і "Хруляўшчызна". З цягам часу назва "Хруляўшчызна" магла трансфармавацца – натуральным шляхам, або праз змену напісання ў дакументах – у назву "Крулеўшчына".

Цяпер звернемся да пытання аб паходжанні назвы. Суфікс "-шчызн-" /"-шчын-" указвае на тое, што назва паходзіць ад імя ці прозвішча ўласнікаў або жыхароў. Калі назва "Хруляўшчызна" не памылковая, то яе трэба выводзіць ад прозвішча або мянушкі Хруль. Калі лічыць за першапачатковую назву "Крулеўшчына"/ "Круляўшчызна", то яна перакладаецца з польскай мовы як "маёмасць караля". Але ніякі кароль не мог мець маёмасці ў гэтых мясцінах, бо ад пачатку XVI стагоддзя гэтая зямля была ў прыватнай уласнасці магнацкага роду Зяновічаў, а ад 1628 года – Радзівілаў.

## Дзе была Хруляўшчызна

Дакумент 1784 года дае падрабязныя звесткі для лакалізацыі Хруляўшчызны. Пішацца пра *"балоты Замшанскія над рэчкай Замшанскай, якія пачынаюцца на поўнач за ¼ мілі маленькія ад двара Міхнаўшчызны, (…) цягнуцца (…) паміж дваром Янушовам і засценкамі Хруляўшчызнай і паміж вёскамі Літоўцы і вёскай Слабадой Замошскай аж да балот Беразінскіх, з якімі злучаюцца"*.

Хруляўшчызна яшчэ раз згадваецца ў дакуменце пры апісанні зімовага тракту, які злучаў Докшыцы і Глыбокае. Дарога ішла *"да вёскі Літоўцаў, адтуль да засценкаў Хруляўшчызны, а ад іх да двара Міхнаўшчызны, дзе мяжуе парафія докшыцкая з парафіяй глыбоцкай"*.

Гэта значыць, Хруляўшчызну трэба шукаць на захад ад двара Янушэва (цяпер у межах м. Крулеўшчына), і недзе каля закінутай дарогі, што злучала Літоўцы з двором Міхнаўшчына (каля в. Верацеі). Прыкладна ў гэтым месцы на аркушы XIII-6 тапаграфічнай карты Расійскай імперыі, надрукаваным у 1866 годзе, сустракаем засценак, падпісаны "Крулевщизна".

У 10-я гады XX стагоддзя засценак Круляўшчызна ўжо не існаваў. На тапаграфічнай карце, створанай у 1916 годзе, ён не пазначаны. Затое ў раскладзе цягнікоў 1906 года мы знаходзім чыгуначную станцыю "Крулеўшчына".

## Як "Крулеўшчына" ператварылася ў "Сяславіна"

Як назва засценка перанеслася на чыгуначную станцыю, невядома. Магло так стацца, што засценак Круляўшчызна знеслі пры пабудове чыгункі, а назву замацавалі ў назве станцыі. Не выключана таксама, што станцыю маглі першапачаткова планаваць побач з засценкам Круляўшчызна (месца там роўнае), а потым размясцілі ў іншым месцы. Абедзве гэтыя версіі з'яўляюцца гіпотэзамі, яны не падмацаваныя гістарычнымі крыніцамі.

Як бы там ні было, у 1902-06 гадах была пабудаваная Балагое-Сядлецкая чыгунка (ад горада Балагое на чыгунцы Пецярбург – Масква да горада Седльцэ ў Польшчы) і на ёй размясцілася станцыя "Крулеўшчына". Газета "Kurjer Litewski" №23 за 7 сакавіка 1906 года надрукавала расклад – цягнік са станцыі "Крулеўшчына" на Маладзечна адыходзіў а 13:11 у аўторкі, чацвергі і суботы, на Полацк – а 11:53 у панядзелкі, серады, пятніцы.

Расійская імперыя ўшаноўвала памяць французска-расійскай вайны 1812 года, якую афіцыйная гістарыяграфія называла Айчыннай. Памяць пра падзеі 1812 года замацоўвалася ў тым ліку праз наданне чыгуначным станцыям назваў у гонар расійскіх палкаводцаў. Станцыя "Крулеўшчына" была перайменаваная ў "Сяславіна" ў гонар генерал-лейтэнанта Аляксандра Сяславіна, які ў 1812 годзе ваяваў на Міншчыне і Віленшчыне. Кніга "История Белорусской железной дороги" (Мінск, 2012) падае дакладную дату перайменавання – 18 красавіка 1914 года.

Праз некалькі месяцаў пасля таго пачалася I Сусветная вайна. Станцыя "Сяславіна" двойчы трапляла пад нямецкую акупацыю – на два тыдні ў верасні 1915 года і на працягу большай часткі 1918 года. Пасля немцаў на дзевяць месяцаў усталёўвалася савецкая ўлада. У жніўні 1919 года станцыю занялі польскія войскі, потым палякі двойчы адыходзілі і вярнуліся ў верасні 1920 года.

Дакладная дата, калі польская ўлада змяніла назву з "Сяславіна" на "Круляўшчызна", невядомая. Магчыма, што нарматыўнага акта аб змене назвы не было – прыйшлі палякі і пачалі ўжываць старую назву. У польскіх крыніцах назва "Сяславіна" ніколі не сустракаецца.

## "Крулеўшчына" ці "Круляўшчызна"?

Беларускія геаграфічныя назвы з суфіксам "-шчын" у гістарычных крыніцах звычайна маюць і другі варыянт напісання – з суфіксам "-шчызн-". Гэта – уплыў польскай мовы, якая пераважала ў пісьмовых дакументах XVII-XVIII стагоддзяў, а таксама ўжывалася польскай адміністрацыяй у 20-х – 30-х гадах XX стагоддзя.

Крыніцы, якія мы разглядзелі вышэй, падаюць розныя варыянты гучання назвы – "Хруляўшчызна" ў дакуменце 1784 года, "Круляўшчызна" на карце 1866 года і "Крулеўшчына" ў раскладзе цягнікоў 1906 года.

Ад 1920 і да 1939 года Крулеўшчына знаходзілася пад польскай уладай. Польская адміністрацыя ўжывала не першапачатковую назву "Крулеўшчына", а паланізаваны варыянт "Круляўшчызна" ("Królewszczyzna"). Гэтаксама пісалася і назва мястэчка, што ўтваралася пры станцыі і хутка разрасталася (з 1921 да 1938 года насельніцтва Крулеўшчыны павялічылася з 245 да 892 чалавек).

У пачатку Другой сусветнай вайны, 17 верасня 1939 года, Крулеўшчыну заняла Чырвоная армія. Савецкая чыгуначная адміністрацыя транслітаравала назву станцыі з польскай мовы, і яна стала пісацца як "Круляўшчызна" ("Крулевщизна"). За мястэчкам паступова замацавалася беларуская версія назвы - "Крулеўшчына". Ужыванне такой назвы ёсць слушным, бо адпавядае мясцовым традыцыям.

У 2012 годзе Акадэмія навук распрацавала нормы напісання назваў чыгуначных станцый па-беларуску. Згодна з імі, у беларускамоўнай версіі афіцыйнага сайта Беларускай чыгункі (rw.by/be) ужываецца назва "Крулеўшчына". У англамоўнай версіі пішацца "Krulieŭščyna" – гэта транслітарацыя згодна з правіламі беларускай лацінкі. Па-руску, як і раней, пішацца "Крулевщизна".




**Фрагмент аркуша XIII-6 тапаграфічнай карты Расійскай імперыі, надрукаванага ў 1866 годзе. На ім адзначаны засценак "Крулевщизна".**




**Будынак вакзала і работнікі станцыі "Сяславіна". Фота зробленае падчас нямецкай акупацыі ў I Сусветную вайну, верасень 1915 года або 1918 год.**

# АДАІ Глыбоцкага РАУС правеў 30 студзеня адзіны дзень бяспекі дарожнага руху

**У апошні час у Дзяржаўтаінспекцыю звяртаюцца грамадзяне з пытаннямі аб тым, калі неабходна усталёўваць зімовыя шыны на транспартныя сродкі і якія менавіта шыны можна выкарыстоўваць зімой?**

■ **М.А. Цынковіч,**
*старэйшы інспектар ДПС АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі*

Раней мы давалі тлумачэнні з нагоды зменаў у заканадаўстве, што тычыцца выкарыстання дзіцячых утрымлівальных прылад, цяпер раскажам пра патрабаванні да «зімовых шын».

Нагадаем яшчэ раз, што дадзеныя змены ўступілі ў сілу з 16 студзеня гэтага года і прадугледжаны Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №483 ад 13.10.2014 года «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №551».

Раней пры наяўнасці снежнага покрыва выкарыстанне шын, прызначаных для эксплуатацыі ў зімовых умовах, насіла рэкамендацыйны характар. У новай рэдакцыі дадзенае патрабаванне з'яўляецца абавязковым і гучыць наступным чынам: пункт правілаў дарожнага руху 207-1 ***«Пры ўдзеле ў дарожным руху з 1 снежня па 1 сакавіка аўтамабілі з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай да 3,5 тоны ўключна, легкавыя і грузапасажырскія аўтамабілі з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай звыш 3,5 тоны, а таксама аўтобусы з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай да 5 тон павінны быць абсталяваны зімовымі шынамі. Зімовыя шыны ўсталёўваюцца на ўсіх колах транспартнага сродку і павінны адпавядаць патрабаванням часткі другой пункта 25 дадатку 4*** *(выдзелены)* ***да дадзеных Правілаў»***, якая носіць наступны характар: 25.«Шыны легкавых аўтамабіляў павінны мець рэштkavую вышыню малюнка пратэктара не менш за 1,6 мм, грузавых аўтамабіляў – 1 мм, аўтобусаў – 2 мм, матацыклаў і мапедаў – 0,8 мм.

**Зімовыя шыны механічных транспартных сродкаў, прызначаныя для эксплуатацыі на абледзянелым або заснежаным дарожным пакрыцці, маркіраваныя знакам у выглядзе горнай вяршыні з трыма пікамі і са сняжынкай унутры яе альбо знакамі «M + S», «M & S», «MS», «MS» ці «Усе сезоны», падчас эксплуатацыі на паказаным пакрыцці павінны мець рэшткавую вышыню малюнка пратэктара не менш за 4 мм.**

Для прычэпаў усталёўваюцца нормы рэшткавай вышыні малюнка пратэктара шын, аналагічныя нормам для шын механічных транспартных сродкаў, у шчэпцы з якімі яны ўдзельнічаюць у дарожным руху.

Шына лічыцца непрыдатнай да эксплуатацыі, калі з'явіўся адзін індыкатар зносу, размешчаны па дне канаўкі пратэктара, пры раўнамерным зносе або два індыкатары ў кожным з двух сячэнняў – пры нераўнамерным зносе беговай дарожкі».

Крыху патлумачым – калі на шынах не будзе адной з пералічаных «маркіровак», яна не будзе з'яўляцца прызначанай для эксплуатацыі на абледзянелым або заснежаным дарожным пакрыцці (зімовымі шынамі), ці не будуць выкананыя іншыя патрабаванні, што прад'яўляюцца ў дадзеным пункце правілаў, прадугледжана адміністрацыйная адказнасць па частцы 3 артыкула 18.12 КоАП Рэспублікі Беларусь, за якое прадугледжаная санкцыя ў выглядзе папярэджання або штрафу ў памеры да дзвюх базавых велічынь, а ў выпадку паўторнага на працягу года такога ж парушэння адказнасць ужо будзе наступаць па частцы 9 артыкула 18.12 КоАП Рэспублікі Беларусь, дзе ўжо штраф будзе складаць ад двух да пяці базавых велічынь.

Яшчэ трохі раскажам увогуле пра змены ў Правілах дарожнага руху.

Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №483 ад 13.10.2014 года «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №551» накіраваны на павышэнне бяспекі дарожнага руху і ўдасканаленне нормаў Правілаў дарожнага руху з улікам практыкі іх прымянення.

У адпаведнасці з Указам павялічваецца час навучання практычнаму ваджэнню аўтамабіля пры падрыхтоўцы вадзіцеляў механічных транспартных сродкаў катэгорыі «B» з 40 да 50 гадзін. Пры гэтым аўташколам прадастаўляецца чатырохмесячны тэрмін для арганізацыі падрыхтоўкі вадзіцеляў у адпаведнасці з новымі патрабаваннямі.

Да элементаў дарогі аднесены размешчаныя на праезнай частцы дарогі пасадачныя пляцоўкі і астраўкі бяспекі, што дазволіць распаўсюдзіць абавязак уладальнікаў дарог па ўтрыманні элементаў дарог у бяспечным для руху стане на названыя збудаванні.

Устанаўліваецца таксама абавязак перавозкі дзяцей ва ўзросце да 12 гадоў у легкавым аўтамабілі з выкарыстаннем дзіцячых утрымлівальных прылад ці іншых сродкаў, якія дазваляюць бяспечна прышпіліць дзіця з дапамогай рамянёў бяспекі (акрамя выпадкаў, калі рост дзіцяці перавышае 150 см, а таксама пры перавозцы ў аўтамабілі-таксі) ,

Змяняецца мінімальная ступень святлопрапускання для ветравога шкла транспартнага сродку, пры якой дапускаецца яго ўдзел у дарожным руху, з 75% да 70%.

Акрамя таго, уводзяцца новыя віды дарожнай разметкі для арганізацыі руху равароў, а таксама для абазначэння кірункаў руху па палосах на скрыжаваннях са складанай канфігурацыяй.



# Глыбоцкі раён адзначыў 75-гадовы юбілей



■ **Зміцер Лупач**

**У пятніцу, 30 студзеня, у гарадскім Доме культуры адбыліся ўрачыстасці з нагоды 75-годдзя ўтварэння Глыбоцкага раёна.**

На святкаванне былі запрошаныя цяперашняе і былое кіраўніцтва раёна, святары, прадстаўнікі вобласці, ветэраны вайны і працы, іншыя ганаровыя госці.

Старшыня Глыбоцкага райвыканкама Алег Морхат уручыў узнагароды ветэранам вайны і працы.

Ганаровым грамадзянінам Глыбоцкага раёна стаў кандыдат эканамічных навук Аляксандр Палікарпавіч Сясіцкі, былы кіраўнік саўгаса імя Цімеразева. Ён стаў чатырнаццатай асобай, што атрымала гэта высокае званне.

# Каталікі адзначылі Грамніцы

**Гэты дзень у каталіцкім Касцёле называецца Свята Ахвяравання Пана .**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Падчас набажэнстваў у касцёле былі асвечаны свечкі. Агонь быў запалены святаром каля алтара, а потым жывое святло вернікі перадавалі адзін аднаму. Пасля асвячэння свечак адбылася працэсія ў касцёле.

Раней у гэты дзень асвячаліся свечкі, якімі потым цэлы год асвятляўся касцёл. Зараз храмы асвятляюцца электрычнасцю, а свечкі засталася як сімвал Святла Хрыста. Грамнічныя свечкі запальваюцца падчас моцных навальніц, каб апека Маці Божай выратавала дом ад стыхіі. Таксама грамнічную свечку даюць у рукі паміраючаму.

Гэтым днём заканчваецца калядны перыяд. На заканчэнне Святой Імшы святар выняў са стаенкі фігуру Дзіцяткі Езуса, і яна была ўрачыста вынесена са святыні да наступных калядных свят. З храма таксама прыбіраюцца навагоднія елкі.

Нагадаем, праваслаўная Царква адзначае гэта свята 15 лютага.





# За кожным чалавекам прыбіральніка не паставіш



**Я думаю, што шмат хто з жыхароў раёна бачаць, колькі смецця знаходзіцца на берагах азёр і рэк вясной і пры гэтым абураюцца, – куды глядзяць прыродаахоўныя структуры, чаму яны не прыбяруць гэтае смецце.**

■ **А.Г. Абрамчык,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Але пры гэтым ніхто не задумваецца пра тое, што гэта смецце пакінуў ён сам на лёдзе: пры зімовай рыбалцы, або летам у кустах, адпачываючы на беразе, а падчас вясновай паводкі яго проста вынесла на адкрыты ўчастак берага. З такімі фактамі неаднаразова сутыкаешся ў ходзе правядзення кантрольных мерапрыемстваў на вадаёмах.

У сувязі з гэтым, хацелася б звярнуць агульную ўвагу на той факт, што абавязак утрымання ў належным санітарным стане берагавых участкаў вадаёмаў ускладаецца на арандатараў. Але пры гэтым варта не забываць і пра тое, што за кожным чалавекам прыбіральніка не паставіш і пад кожным кустом смеццевы бак не ўсталюеш. Таму, знаходзячыся на вадаёме з мэтай адпачынку або рыбалкі, не варта забываць аб тым, што чысціня вадаёма ў асноўным залежыць ад нас саміх. Не выкідвайце смецце на лёд, у ваду або хмызняк, а вазьміце яго з сабой і выкіньце ў смеццевы бак. Бо нездарма народная мудрасць кажа: «Чыста не там, дзе прыбіраюць, а там, дзе не смецяць!»

Не варта забываць і аб мерах адказнасці за засмечанне вадаёмаў і хмызнякоў, прадугледжаных КаАП Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 15.30.**
**Забруджванне лесу і іншай драўняна-хмызняковай расліннасці**

1. Забруджванне лесу адходамі або сцёкавымі водамі альбо іншым спосабам –

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да дваццаці базавых велічынь, на індывідуальнага прадпрымальніка – да пяцідзесяці базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – да трохсот базавых велічынь.

2. Забруджванне драўняна-хмызняковай расліннасці, якая не ўваходзіць у дзяржаўны лясны фонд, адходамі або сцёкавымі водамі альбо іншым спосабам –

цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да дваццаці базавых велічынь, на індывідуальнага прадпрымальніка – да пяцідзесяці базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – да трохсот базавых велічынь.

**Артыкул 15.51.**
**Забруджванне альбо засмечванне вод**

1. Забруджванне альбо засмечванне паверхневых або падземных вод –

цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад чатырох да дваццаці базавых велічынь, на індывідуальнага прадпрымальніка – да ста базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – да пяцісот базавых велічынь.

2. Парушэнне рэжыму ўтрымання водаахоўных зон і прыбярэжных палос водных аб'ектаў або водаахоўнага рэжыму на вадазборах, іх забруджванне –

цягнуць накладанне штрафу ў памеры да дзесяці базавых велічынь, на індывідуальнага прадпрымальніка – да трыццаці базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – да пяцідзесяці базавых велічынь.

3. Дзеянні, прадугледжаныя часткай 2 гэтага артыкула, якія выклікалі водную эрозію глебаў або іншыя шкодныя наступствы, або невыкананне рэжыму гаспадарчай і іншай дзейнасці, прадугледжанага для зон санітарнай аховы крыніц і сістэм пітнога водазабеспячэння, –

цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад дзесяці да трыццаці базавых велічынь, на індывідуальнага прадпрымальніка – ад дзесяці да пяцідзесяці базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – да двухсот базавых велічынь.

Рыбаловы абавязаны: падтрымліваць належны санітарны стан рыбалоўных угоддзяў, не пакідаць на іх берагах, а таксама на лёдзе смецце і іншыя адходы, не дапускаць засмечвання і забруджвання рыбалоўных угоддзяў іншым чынам.

**Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць па тэлефонах «гарачай лініі»; 8-02156-2-86-70, 8972302, 8905528, 2494549, 6456678.**



## Не будзьце абыякавымі да чужой бяды!

■ **І.В. Рыпінскі,** *часова выконваючы абавязкі начальніка ААПП Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

**Сямейнае няшчасце схаваць немагчыма!**

Проста асобныя людзі стараюцца не заўважаць таго, што іх не тычыцца напрамую. З 2 па 9 лютага года праводзіцца комплекс мерапрыемстваў па прафілактыцы правапарушэнняў, якія ўчыняюцца ў сферы сямейна-бытавых адносін, папярэджанні п'янства і алкагалізму, фарміраванні здаровага ладу жыцця грамадзян.

**Кожны чалавек, які паведаміў аб нядобранадзейных сем'ях па тэлефонах: МТС 597-21-74, Велком 314-89-02, 2-26-82, 2-27-02 або 102, можа прыняць удзел у гэтай акцыі і аказаць дапамогу людзям, што падвяргаюцца проціваправаўным проціпраўным дзеяннем.**

## МНС інфармуе

**на 03.02.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 63;
Гібель людзей – 14, з іх 0 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 6;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон –107 млн. руб.

# СКМ «Нагляд» – адзін з метадаў прафілактыкі злачыннасці

**Прафілактычная праца з асуджанымі і раней судзімымі асобамі з мэтай недапушчэння з іх боку злачынстваў з'яўляецца адной з асноўных напрамкаў у дзейнасці супрацоўнікаў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС.**

■ **С.В. Ешчанка** *начальнік крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС, капітан міліцыі*

З гэтай мэтай і згодна плана асноўных арганізацыйных мерапрыемстваў УУС Віцебскага аблвыканкама на першае паўгоддзе 2015 года, на тэрыторыі Глыбоцкага раёна ў перыяд часу з 16 па 24 студзеня гэтага года было праведзена спецыяльнае комплекснае мерапрыемства «Нагляд».

На падрыхтоўчым этапе правядзення спецыяльнага комплекснага мерапрыемства ў РАУС быў праведзены аналіз злачынстваў, учыненых асобамі, якія маюць судзімасць, у адпаведнасці з якім распрацаваны дэталізаваны план правядзення СКМ у дачыненні да абслугоўванай тэрыторыі і стану аператыўнай абстаноўкі.

У перыяд правядзення дадзенага мерапрыемства асаблівы кантроль быў нададзены асобам, у дачыненні да якіх устаноўлены прэвентыўны нагляд, і асобам, асуджаным да пакарання ў выглядзе абмежавання волі без накіравання ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу, якія згодна з абавязкаў і ўстаноўленых у дачыненні да іх абмежаванняў, абавязаны знаходзіцца па месцы жыхарства. Адны асуджаныя выконваюць абавязкі і абмежаванні, а іншыя абыякава да іх ставяцца, што выяўляецца ў адсутнасці іх па месцы жыхарства ў вызначаны пастановай суда час.

Дзеючым заканадаўствам за невыкананне патрабаванняў прэвентыўнага нагляду прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу ад 6 да 20 базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.

У перыяд СКМ «Нагляд» было выяўлена тры парушэнні патрабаванняў прэвентыўнага нагляду, за што было складзена і будзе разгледжана ў судзе Глыбоцкага раёна 3 адміністрацыйныя пратаколы. У дачыненні да паднаглядных, якія неаднаразова парушалі патрабаванні прэвентыўнага нагляду, матэрыял быў перададзены ў Глыбоцкі раённы аддзел следчага камітэту для дачы прававой ацэнкі і прыцягнення да крымінальнай адказнасці па арт. 421 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь. Санкцыя гэтага артыкула прадугледжвае пакаранне ў выглядзе 6 месяцаў арышту або пазбаўлення волі да 1 года.

У дачыненні да асобаў, якія адбываюць пакаранне ў выглядзе абмежавання волі без накіравання ў папраўчыя ўстановы адкрытага тыпу і якія дапусцілі парушэнні парадку і ўмоваў адбыцця пакарання, былі вынесеныя спагнанні ў выглядзе вымоў і дысцыплінарнай ізаляцыі ў ізалятары часовага ўтрымання Глыбоцкага РАУС. За злоснае парушэнне парадку і ўмоваў адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі без накіравання ў папраўчыя ўстановы адкрытага тыпу прадугледжаная крымінальная адказнасць па арт. 415 КК Рэспублікі Беларусь, санкцыя артыкула якога прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да 3 гадоў.

Асаблівая ўвага ў перыяд мерапрыемства была нададзена асобам, што адбылі пакаранне, якія маюць непагашаную судзімасць, якія прыцягваліся да адміністрацыйнай адказ-насці за ўчыненне адміністрацыйных правапарушэнняў у стане алкагольнага ап'янення.

21 студзеня гэтага года ў УАЗ «Глыбоцкая ЦРБ» была арганізавана і праведзена медыцынская камісія, для вызначэння стану здароўя і прыдатнасці знаходжання ў ЛПП, на якой прысутнічала 10 асоб, якія маюць судзімасць і якія стаяць на ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі РАУС.

22 студзеня было арганізавана і праведзена пашыранае пасяджэнне назіральнай камісіі пры Глыбоцкім РВК, з запрашэннем усіх зацікаўленых ведамстваў і прадстаўніком каталіцкага касцёла. На дадзенай камісіі прысутнічала 6 асоб, якія маюць судзімасць, якім вынесены афіцыйныя пракурорскія папярэджанні.

У ходзе правядзення мерапрыемства асуджаным і раней судзімым асобам, якія стаяць на ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС, растлумачваліся іх абавязкі, з імі праводзіліся гутаркі прафілактычнага характару аб недапушчальнасці ўчынення з іх боку ў далейшым злачынстваў, жаданні весці законапаслухмяны лад жыцця, імкненні раз і назаўсёды адмовіцца ад лавы падсудных.

У перыяд правядзення СКМ «Нагляд» на тэрыторыі Глыбоцкага раёна рэцыдыўных злачынстваў асобамі, якія маюць не знятую і не пагашаную судзімасць не ўчынена, на тэрыторыі раёна дасягнуты пэўныя вынікі, якія становіча ўплываюць на аздараўленне крыміногеннай абстаноўкі.

